*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# НАША СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 15 (119) 10 красавіка 2024 г.**

## Новага біскупа ў Беларусі прызначыў Папа Рымскі




Папа Рымскі Францішак прызначыў ксяндза Уладзіміра Гуляя біскупам-каад'ютарам Гарадзенскай дыяцэзіі. Такое рашэнне 5 красавіка 2024 года апублікавалі ў Ватыкане. 48-гадовы святар з 2003 года служыць пробашчам парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе (Фара), а цяпер стане дапаможным біскупам найбольш масавай дыяцэзіі ў краіне.

Пасада біскупа-каад'ютара незвычайная і рэдкая не толькі для Беларусі, але ў цэлым у свеце. Такі іерарх прызначаецца, каб дапамагаць кіраўніку дыяцэзіі (ардынарыю), аднак у адрозненні ад вікарнага біскупа мае права замяшчаць ардынарыя падчас яго адсутнасці. Таксама каад'ютар адразу аўтаматычна становіцца кіраўніком дыяцэзіі ў выпадку адстаўкі або смерці ардынарыя.

Фактычна гэта азначае, што ксёндз Уладзімір Гуляй будзе служыць у Гарадзенскай дыяцэзіі як дапаможны біскуп і адразу можа ўзначаліць дыяцэзію пасля сыходу ў адстаўку цяперашняга ардынарыя біскупа Аляксандра Кашкевіча, якому ў верасні споўніцца 75 гадоў.

Ксёндз Уладзімір Гуляй для мясцовых вернікаў "свой" - ён нарадзіўся на Гарадзеншчыне ў Ваўкавыску. Цяпер святара чакае ўрачыстае біскупскае пасвячэнне і ўступленне на пасаду.

Цікава, што ў маладосці ксёндз Уладзімір Гуляй быў гітарыстам і вакалістам - менавіта ён стварыў каталіцкі музычны гурт AVE, цяперашні калектыў Гарадзенскай семінарыі.

***Крыніца: katolik.life.***

## Касмічны экіпаж з Марынай Васілеўскай паспяхова вярнуўся на Зямлю

6 красавіка экіпаж з першым касманаўтам суверэннай Беларусі Марынай Васілеўскай зрабіў пасадку на Зямлю.

Разам з Марынай Васілеўскай на Зямлю вярнуліся Герой Расіі ўраджэнец Беларусі Алег Навіцкі і астранаўт NASA Лорэл О'Хара.

Пасадка апарата адбылася штатна ў 10.17 па мінскім часе прыблізна за 150 км на паўднёвы ўсход ад горада Жэзказган у Казахстане. Мяккую пасадку забяспечылі парашуты, а таксама спецыяльныя рухавікі, якія ўключыліся за некалькі метраў да прызямлення.




Палёт Марыны Васілеўскай прадаўжаўся 14 сутак, 12 з іх яна правяла на Міжнароднай касмічнай станцыі. На МКС Марына Васілеўская выконвала навуковую праграму, распрацаваную Нацыянальнай акадэміяй навук сумесна з "Раскосмасам" і Расійскай акадэміяй навук. Яна ўключала сем эксперыментаў - пяць навукова-даследчых і два адукацыйныя. Навуковыя даследаванні праводзіліся ў галіне біялогіі, фізіялогіі, аўтаномнага функцыянавання касмічных станцый, дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі з выкарыстаннем фота- і відэаспектральнай апаратуры беларускай вытворчасці, якая знаходзіцца на МКС. Даследаваліся таксама лактаферын і прабіётыкі, выраблены навуковымі арганізацыямі НАН, для іх далейшага магчымага выкарыстання ў стварэнні прадуктаў харчавання для касманаўтаў.

***Эдуард Півавар,***
***БЕЛТА.***





# "Жыццё як радасць існавання"

3 красавіка 2024 года ў в. Цімкавічы Капыльскага раёна на базе сярэдняй школы прайшла літаратурна-музычная імпрэза "Жыццё як радасць існавання", прымеркаваная да 100-годдзя ўступлення Кузьмы Чорнага ў літаратурнае аб'яднанне "Маладняк" - першае літаратурнае аб'яднанне Беларусі.













Мерапрыемства было арганізавана Літаратурным музеем Кузьмы Чорнага і Цімкавіцкай сельскай бібліятэкай ДУК" Капыльская цэнтральная раённая бібліятэка імя Анатоля Астрэйкі". На мерапрыемства былі запрошаны супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Менскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, Капыльскай раённай бібліятэкі, Цімкавіцкай ДШМ. Шмат цікавага пачулі дзеці на імпрэзе пра свайго земляка Кузьму Чорнага, пра літаратурнае аб'яднанне "Маладняк" і іншых пісьменнікаў-маладнякоўцаў, якія нарадзіліся ў Менскай вобласці.



Больш падрабязна пра мерапрыемства можна будзе прачытаць у хуткім часе на сайтах удзельнікаў мерапрыемства!

***Таня Лаўрык.***





# Ураджэнка Ліды выйшла ў фінал галоўнага польскага конкурсу прыгажосці

Бажэна Варона, якая нарадзілася ў Лідзе, а цяпер жыве ў Польшчы, пазмагаецца за тытул Miss Polonia,




Бажэна Варона нарадзілася ў Лідзе, але цяпер жыве ў Польшчы, яна ўжо атрымала польскае грамадзянства.

Дзяўчына падала заяўку на ўдзел у конкурсе Miss Polonia яшчэ ў студзені. Тады ж Бажэна прайшла кастынг і выйшла ў паўфінал.

На гэтым этапе ўдзельніцы праводзілі самапрэзентацыю для членаў журы. Бажэна расказала, што нарадзілася недалёка ад польскай мяжы (хоць Ліда ад яе не так ужо і блізка, за 120 кіламетраў), а яе дзядуля хадзіў у адзін клас з вядомым польскім спеваком Чэславам Неманам (той нарадзіўся ў Старых Васілішках на Шчучыншчыне). А яшчэ дзяўчына згадала, што недалёка ад яе радзімы, на Наваградчыне, нарадзіўся Адам Міцкевіч.

Бажэна паспела папрацаваць у журналістыцы, а цяпер заканчвае вучобу на крыміналістку. У дзяўчыны ёсць свой падкаст, на які яна запрашае псіхолагаў. Да таго ж Бажэна любіць спяваць - яна нават удзельнічала ў папулярным польскім шоў.

Для журы дзяўчына выканала песню Polskie Kwiaty і скарыла дырэктара конкурсу сваім голасам. Па рашэнні журы ўраджэнка Беларусі такім чынам, выйшла ў фінал.

Miss Polonia - гэта галоўны нацыянальны конкурс прыгажосці ў Польшчы. Пераможца прадставіць краіну на конкурсе "Міс Свету".

*Паводле СМІ.*
*Фота: інстаграм.*

# Выйшла кніга вершаў Міхала Анемпадыстава

"Ці помніш ты" - так называецца кніга вершаў Міхала Анемпадыстава - беларускага паэта, мастака, дызайнера, культуролага, выдатнай асобы беларускай незалежнай культуры. Зборнік, створаны да 60-годдзя творцы, неўзабаве мусіць з'явіцца на кніжных анлайн-пляцоўках, офлайн кнігу можна знайсці ў менскім ТГ "Купалаўскі".




Выданне прадстаўляе Міхала Анемпадыстава як паэта - у кнізе сабраныя амаль усе вершы аўтара, а гэтаксама ў зборніку надрукаваны ягоныя фота.

*"Міхаіл Анемпадыстаў сваёй творчасцю будаваў Каралеўства Беларусь - поўнае стылю, густу, шляхетнасці і любові да свайго. Рознабаковы і гарманічны, канцэптуальны і разнастайны - візуальнае, тэкставае і музычнае нарошчвалася на стрыжань ідэі і разрасталася прыгожым, укарэненым у сваю зямлю і традыцыю дрэвам,* - паведмляецца ў анатацыі да кнігі. - *Калі крышацца ў друз эпохі, застаюцца галасы, словы і музыка. Застаецца інтанацыя, на якую абарочваліся, за якой ішлі, якую шукалі. Стыль 1990-х для беларускага кола быў зададзены Міхалам Анемпадыставым. Голасам таго часу сталіся спевы Каралевы беларускага року. Паэзія, праспяваная ёй, адважна і пяшчотна змяніла прастору і нас саміх у ёй. Уздымала і адорвала небывалым. Свет тады на вачах поўніўся навізной пад гітарныя акорды і прамоўленыя словы. Так здавалася. Так было.*

*Ці помніш ты, як мала мы спалі?*
*Ці помніш ты, як шмат мы прыснілі?".*

Выданне падрыхтавана па замове сям'і аўтара. Наклад - 300 асобнікаў.

***Паводле СМІ.***





# "... Бываюць крылы ў мастакоў"

Арт-гадзіна "... Бываюць крылы ў мастакоў" у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі праходзіць штогод у дні, калі працуюць выставы мясцовых мастакоў. Мэта падобных мерапрыемстваў - знаёміць наведвальнікаў асабіста з мастакамі-землякамі.

На фоне тэматычнай выставы "Проста вясна" была арганізавана сустрэча студэнтаў, будучых настаўнікаў пачатковых класаў, і мастака Балыка Валянціны Іванаўны.

Форма правядзення мерапрыемства - вольны мікрафон.



Падтрымаць мастака і распавесці пра творчы працэс пад яе кіраўніцтвам прыйшлі яе вучні і нават бацькі.

Для аўдыторыі мастак падрыхтавала аўтарскія сувеніры.

Ці бываюць "крылы ў мастакоў"? Думаю, так!

Бо наша гераіня арт-сустрэчы адбылася ў прафесіі.

Пажадаем ёй творчага палёту!









Выстава "Проста вясна" працуе ў красавіку. Запрашаем і вас пазнаёміцца з творчасцю нашых землякоў у зале 22 музея.

***Аўтар ідэі арт-гадзіны і куратар выставы ст. навуковы супрацоўнік музея Т. Нікіфарава.***





# Бум патэнтаў у вобласці ШІ ў Германіі

***Нямецкая прамысловасць істотна паскорыла развіццё штучнага інтэлекту. Па колькасці заявак на выдачу патэнтаў для нямецкага рынку Германія займае другое месца пасля ЗША***



***Светлавы экран на тэхналагічнай выставе CeBIT© pictureAlliance/dpa***

У нямецкай прамысловасці і навуцы актывізаваліся даследаванні і распрацоўкі ў вобласці штучнага інтэлекту. Паводле аналізу Германскага ведамства па патэнтах і гандлёвых знаках (DPMA), па колькасці патэнтавых заявак у гэтай сферы для нямецкага рынку Германія займае другое месца пасля ЗША. Летась колькасць апублікаваных патэнтавых заявак на вынаходства ў вобласці ШІ павялічылася на 40% у параўнанні з 2019 годам.

Сярод заявак, апублікаваных у 2023 годзе, на долю нямецкіх кампаній і навукова-даследчых устаноў прыйшлося 17,1%, у той час як амаль траціна (32,4%) паступіла са ЗША. Далей ідуць Японія, Кітай і Паўднёвая Карэя.

- Магутная і шырокая інавацыйная дынаміка дэманструе, што ў будучыні ШІ будзе іграць важную ролю ў многіх сферах жыцця, - лічыць прэзідэнт DPMA Ева Шэвіёр. Калі меркаваць па колькасці патэнтавых заявак, то нямецкія кампаніі займаюць адносна добрыя пазіцыі на айчынным рынку, лічыць Шэвіёр, звязваючы гэта са зваротам да бізнэсу і навукі:

- З улікам неверагоднай дынамікі ў іншых частках свету мы таксама павінны працягваць рабіць усё магчымае, каб застацца ў ліку самых інавацыйных краін у гэтай ключавой тэхналогіі будучыні.

***Мюнхен (dpa).***

***Навіны Германіі***

# Нямецкі ўрад мае намер адаптоўваць порты Германіі да запытаў будучыні

***Урад Германіі прыняў Нацыянальную стратэгію развіцця партовай інфраструктуры. Партовыя магутнасці павінны быць павялічаны ў тым ліку для паскарэння энергетычнага павароту***




***Найбуйнейшы порт у Германіі знаходзіцца ў Гамбургу.© Picture alliance / Jochen Tack***

Нямецкія порты маюць патрэбу ў нарошчванні магутнасцяў. З гэтай мэтай урад Германіі распрацаваў Нацыянальную стратэгію развіцця партовай інфраструктуры. Федэральны міністр транспарту Фолькер Вісінг лічыць, што нямецкія порты неабходна адаптоўваць да запытаў будучыні. Порты не толькі маюць вялікае эканамічнае значэнне, але і іграюць важную ролю ва ўмовах энергетычнага павароту.

У стратэгіі сказана, што марскія і рачныя порты Германіі маюць вялікае эканамічнае і стратэгічнае значэнне як "вузлавыя пункты марскіх і кантынентальных ланцужкоў паставак". Каля 60 % свайго імпарту і экспарту Германія ажыццяўляе па моры. Самы буйны і важны порт краіны знаходзіцца ў Гамбургу, далей ідуць Брэмерхафен і Вільгельмсхафен.

Аднак порты іграюць важную ролю не толькі ў беравальванні грузаў. Яны з'яўляюцца вузлавымі пунктамі для рэалізацыі энергетычнага павароту, гэта значыць паступовай адмовы ад выкарыстання выкапнёвага паліва, такога як газ і вугаль. Важную ролю ў гэтым пытанні іграе, да прыкладу, Куксхафен: па дадзеных Федэральнага звяза ветраэнергетыкі, праз гэты порт паступае 80% лопасцяў для ветрагенератараў. Гэты порт загружаны на поўную магутнасць, таму ён мае патрэбу ў пашырэнні.

***Берлін (dpa).***





# Абваранкі - смаргонкі

Узнікненне Смаргонскіх абваранкаў гістарычна звязваюць з не менш славутай Мядзведжай акадэміяй, заснаванай Радзівіламі ў Смаргоні яшчэ ў XVII стагоддзі. Першапачаткова вырабы мелі зусім іншую форму - гэта былі палоскі з цеста, зваранця ў кіпені, а затым высушаныя і падсоленыя, і выкарыстоўваліся яны для дрэсіроўкі мядзведзяў.

Паступова печыва эвалюцыянавала натуральным шляхам. Паколькі ўвесну павадыры са сваімі выхаванцамі выпраўляліся на заробкі па кірмашах Рэчы Паспалітай, Вугоршчыны, Нямеччыны, Расіі, а восенню вярталіся дадому, то ў дарогу значна зручней было браць круглыя пачастункі, нанізаныя на вяровачкі.

Мясцовыя гаспадыні з цягам часу ўдасканалілі рэцэптуру абваранкаў, і яны зрабіліся ласунакам ужо для людзей.

Па сцвярджэнні рускага гісторыка, журналіста, географа і аўтара кулінарных кніг Вільяма Пахлёбкіна: *"Слова "абваранак" паходзіць ад дзеяслова "абварыць". Радзіма абаранкаў - горад Смаргонь у Беларусі, дзе з заварнога (абварнога) цеста ўпершыню пачалі рабіць вузкія жгуцікі і выпякаць з іх абваранкі (вырабы з абваранага цеста). Іх называлі абваранačкамі, абаранкамі, і, нарэшце, баранкамі"*.

Мы маем поўнае права называць Смаргонь радзімаю абваранкаў. Прынамсі, для Беларусі - гэта так. Але варта адзначыць, што традыцыя іх прыгатавання мае нашмат глыбейшыя карані і сягае ажно ў XIV стагоддзе. Абвараныя ў кіпені альбо гарачым тлушчы, а потым выпечаныя "abwarzanki" ўпершыню згадваюцца ў 1394 годзе ў рахунках Кракаўскага двара вялікага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы. Але ж і Ягайла - спадчынны крэўскі князь, таму паходжанне абваранкаў усё ж трэба імкнуцца захаваць за намі.

Калі разглядаць смаргонскія абваранкі ў рэчышчы нематэрыяльнай культурнай спадчыны, то мала якія яшчэ традыцыі маюць такі гістарычны грунт. Столькімі сведчаннямі аб шматвекавым існаванні, аб папулярнасці і вядомасці могуць пахваліцца хіба што слуцкія паясы. І колькі знакамітых асобаў паўстае ў ліку сведкаў, на якіх мы сёння можам спасылацца.

Пісьменнік і даследчык Леанід Лаўрэш пераклаў аповесць Камілы Юрэвіч з Нарбутаў, у якой яна распавядала: *"У Смаргоні наш экіпаж акружылі маладыя дзяўчаты з вязанкамі дробных абваранкаў у руках. Кожная хваліла свае, штурхала і лаяла чужыя..."*. Каміла вандравала разам з бацькам, гісторыкам Юстынам Нарбутам *"з Літвы (Лідчына) у Беларусь (на Дняпро)"*. Леанід Лаўрэш адзначае, што кніга Камілы Юрэвіч выйшла ў 1852 годзе, а яе бацька, Юстын Нарбут памёр у 1845 годзе. Таму апісаныя падзеі хутчэй за ўсё адбываліся да 1840 года.



Аповесць Віктара Гамуліцкага "Сёмы аман ягамосці пана Макрэцкага" хоць і выглядае лёгкай, пазітыўнай і нават казачнай, але, як заўважае даследчык і журналіст Станіслаў Суднік, вызначаецца *"высокай дакладнасцю фактуры, што робіць аповесць з мастацкай амаль дакументальнай"*. Твор, напісаны ў канцы XIX стагоддзя, апісвае стагоддзе XVIII, і ўтрымлівае мастацкі выраз *"...nie czekając na obwarzanki smorgonskie"* ў кантэксце апісання падарожжа Кракаўскага шкаляра Самуэля з Закрута пад Вільняй, які, *"выправіўшыся па сушы да Гарволіна праз Балтыйскае мора, убачыў на Дарданскай вежы дзікага мядзведзя ў мармуровым футры і які, не дачакаўшыся смаргонскіх абваранак, паспяшаўся на санях у Хойніцы, каб убачыць цудоўнага аленя на чатырох нагах з двума рагамі. Афрыка спараджае монстраў" (пераклад з польскай - Леанід Лаўрэш)*. Выказванне, відавочна, мае пераносны сэнс, але наўпрост сведчыць аб такой вялікай вядомасці і каштоўнасці абваранкаў,





якая пераводзіла іх у афарызм альбо прыказку.

У 1882 годзе ў беларускім томе выдання "Живописная Россия" Адам Ганоры Кіркор пісаў: *"... У Смаргонях, Ашмянскага павета, Віленскай губерніі, ледзь не ўсё мяшчанскае насельніцтва занятае выпечкай маленькіх бублікаў, або крэндзялькоў, якія карыстаюцца вялікай вядомасцю пад назвай смаргонскіх абваранкаў. Кожны праезджы абавязкова купіць некалькі звязак гэтых бублікаў; акрамя таго, іх развозяць у Вільню і іншыя гарады"*.

З мемуараў Караля Ёдкі, перакладзеных Галінай Лаўрэш і апублікаваных у беларускім біяграфічным альманаху "Асоба і час", дзе ён праўдзіва апісвае жыццё лідскіх месцічаў напрыканцы XIX стагоддзя, між іншым падаецца наступнае: *"Здаўна славіцца ў Лідзе кірмаш 40-гадзіннага набажэнства, які называецца звычайна "чтэрдзестова" і прывязаны да 14 верасня. Калі ў Лідзе яшчэ не было чыгункі, з'язджаліся на кірмаш фурманкамі ажно з-пад Вільні "галантарэйнікі", а са Смаргоні - пекары са смаргонскімі абваранкамі"*.

Выбітны дзеяч беларускай культуры Францішак Багушэвіч таксама не абышоў увагаю наша знакамітае печыва, калі ў 1885 годзе пісаў: *"Напярэдадні і ў дзень заступніка Літвы - святога Казіміра, 3 і 4 сакавіка, у Вільні, на Катэдральным пляцы збіраецца кірмаш, дзе прадаюць пераважна markрознае начынне і драўляныя вырабы, вясковыя фабрыкаты з рэштак нашых пушчаў: куфры, мэблю, вазы, такарныя вырабы, дзіцячыя цацкі і розныя кірмашовыя прысмакі; бутрыманьскія пернікі, смаргонскія абваранкі і г.д...."*

Прыгадваў абваранкі-смаргонкі ў сваім дарожным дзённіку і наш ганаровы зямляк Уладзіслаў Сыракомля, называючы Смаргоні *"горадам старой Акадэміі мядзведзяў і сталіцай славутых на ўсю Літву абваранкаў"*.

Паэт, гісторык Чэслаў Янкоўскі ў сваім "Павеце Ашмянскім", выдадзеным у Пецярбургу ў 1898 годзе, сцвярджае, што *"Смаргоні расславілі на цэлы край і далёка па-за межамі краю: акадэмія і абваранкі"*. Краязнавец піша, што слава смаргонскіх абваранкаў нават пераўзыходзіць славу мядзведжай акадэміі, але выказвае меркаванне аб тым, што абваранкі *"напаткаў супольны лёс усіх вялікіх вынаходніцтваў"*, калі, *"пачаткова - найпраўдападобней яшчэ ў мінулым стагоддзі - яны выраблялiся толькі ў Смаргонях, і назва лакальная слушна ім належала"*. Толькі з цягам часу рэцэптура перастала быць таямніцаю і знакамітыя смаргонскія абваранкі пачалі выпякаць у розных гарадах, і з усяго між сабою супольнага яны захавалі толькі назву. Чэслаў Янкоўскі называе ў сваёй працы *"астатнюю, бадай, "абвараніцу" смаргонскую чыстай крыві - ганаровую пані Чаховічаву"*, і ўсё ж канстатуе, што *"няма сапраўднага кірмашу літоўскага без абваранкаў смаргонскіх... А хто з кірмашу дадому вяртаўся без вянка смаргонскіх абваранкаў, той, існа, невядома па што на кірмаш ездзіў". (Пераклад з польскай - Алена Бобіна (Шатурына))*.

Не менш багатым на звесткі выглядае і XX стагоддзе. Вядома, што ў 1900-х гг. у Смаргоні налічвалася каля 60 арцеляў па вытворчасці абваранкаў. Сярод вядомых вытворцаў жа значыліся Янчуковічы, Альхімовічы, Вайцяхоўскія, Чаховічы, Хацілоўскія, Русецкія, Александровічы, Руткоўскія, Завадскія, Казлоўскія, Рубіновічы і іншыя.

Карэнная жыхарка Смаргоні Наталля Уладзіміраўна Шчасная распавяла аўтарцы пра свайго дзядулю, Юшкевіча Фёдара Осіпавіча, 1905 года нараджэння, які малым хлопчыкам, перад школай шторанак разносіў па Смаргонях абваранкі, што пякла яго маці, Анастасія з Гурскіх. У канцы XIX - пачатку XX стст. сям'я жыла на сучаснай Чырвонаармейскай вуліцы. Калі ж пачалася Першая сусветная вайна, продкі Наталлі Уладзіміраўны апынулася ў ліку бежанцаў і з'ехалі, як і большасць жыхароў мястэчка.

У кнізе "Над Гаўяй" польскага пісьменніка, ураджэца Суботнікаў, Казіміра Нехвядовіча, знаходзім сведчанне аб тым, што ў мястэчку Смаргоні ў 1934 годзе *"было чатыры тысячы чатырыста жыхароў і 80 пякарняў, дзе выраблялі розныя абваранкі"*. Смаргонь у той час была знакамітай па ўсёй Польшчы менавіта абваранкамі, і, як у больш раннія часы, так і ў першай палове XX стагоддзя Віленскія Казюкі ў памяці людзей трывала асацыяваліся са смаргонскімі абваранкамі.

Юзаф Кардаш, настаўнік з Лідчыны 1924 года нараджэння, у сваёй гістарычнай працы "Ліда сапраўдная", выдадзенай у Ольштыне ў 1997 годзе, апісваючы фарны касцёл у Лідзе ў міжваенны перыяд, між іншым адзначае, што *"кожны год 14 верасня ў касцёле адбываліся ўрачыстасці Адпусту. Вуліца і плошча пры мураванай агароджы ў той час былі застаўлены фурманкамі, якія прыбывалі з мястэчка Смаргоні з вязанкамі слынных на Віленшчыне абваранкаў"*.

Удалося нават зафіксаваць успаміны некаторых абваранaчніц, чыё дзяцінства прыпала на 30-я гг. XX стагоддзя. Так, Валянціна Булава працавала ва ўласнай пякарні з маці і сёстрамі. Яна распавядала, што выраб абваранкаў быў сямейным бізнэсам, і толькі ў самыя "гарачыя" перыяды - на Яна, на Пятра і Паўла і на Казюкі, перад кірмашамі, у падмогу наймалі пабочных людзей. Тавар распрадаваўся хутка, бо быў даволі танным і меў непаўторныя смак і якасць, як, звычайна, і любы прадукт, зроблены ўручную.

Кацярына Мінкоўская ў 1930-я гг. працавала ў адной з прыватных пякарняў і ў сваіх успамінах








зазначала, што самы вялікі попыт на абваранкі быў на куццю. А ў Смаргоні абваранкі прадавалі як на базары, так і на чыгуначным вакзале і па навакольных вёсках. На Віленскія ж кірмашы абваранкі-смаргонкі дастаўлялі на вазах, укладзеных сенам, і, дзеля захавання таварнага выгляду, печыва ўкрывалі белымі прасцінамі, сшытымі між сабою. Кацярына Аляксандраўна згадала таксама Янчуковіча з вуліцы Новай (цяпер - Пятра Балыша), з пякарні якога абваранкі адпраўлялі на продаж у Варшаву, Гданьск, Гдыню і Сопат.

З прыходам савецкай улады ў 1939 годзе абваранachная справа, як і іншыя накірункі прыватнага бізнэсу, перастала існаваць.

З таго часу мінула 85 год. Аб смаргонскіх абваранках выходзілі артыкулы ў друкаваных выданнях, успаміны некалькіх носьбітаў былі запісаны ў 1990-х гадах, у Смаргоні раз у два гады ладзіцца фестываль пад аднаіменнай назвай. Але спробаў адрадзіць традыцыйную вытворчасць за ўсе гады так і не адбылося.

Аўтар дадзенага артыкула даследавала і паспяхова ініцыявала ўключэнне ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь 27 аб'ектаў - помнікаў архітэктуры на тэрыторыі Смаргонскага і Астравецкага раёнаў; элемента нематэрыяльнай культурнай спадчыны, адзінага ў Беларусі ўзора інструментальнага выканальніцтва - музычна-інструментальнай традыцыі "Смаргонскія найгрышы"; павышэнне катэгорыі Крэўскага замка да статусу помніка міжнароднай значнасці, а сядзібы Багушэвіча ў Кушлянах - да статусу нацыянальнай; кіравала праектам па будаўніцтве вежы-дазорцы на Юравай гары ў Крэве. І, прысвяціўшы ўсё свядомае жыццё захаванню спадчыны, натуральна, што ад справы адраджэння смаргонскіх абваранкаў застацца ў баку проста не магла. Плёнам ідэі, якая выношвалася шмат год, стала вывучэнне гістарычных, архіўных крыніц у Беларусі і за яе межамі, якія дагэтуль не былі вядомымі або апублікаванымі, размова і запіс успамінаў Ядвігі Хадалёнак, 1942 г.н., з вёскі Вішнева Смаргонскага раёна (адзінай, хто сёння памятае, як гатаваліся абваранкі), вывучэнне і аналіз расповядаў абваранachніц са Смаргоні, чые ўспаміны былі зафіксаваныя яшчэ ў 1990-я гг. Доўгі працэс практычнай работы над адраджэннем рэцэптуры і тэхналогіі, абапіраючыся выключна на гістарычныя матэрыялы і з выкарыстаннем прадуктаў хатняй вытворчасці, у супрацоўніцтве з прафесійным шэф-поварам аднаго з рэстаранаў сталіцы, рэгістрацыя таварнага знаку "АБВАРАНКІ-СМАРГОНКІ", - усё гэта атрымала ўвасабленне ў густоўна аформленых і глыбока змястоўных па сваёй сутнасці пакунках са свежымі і духмянымі традыцыйнымі абваранкамі ручной вытворчасці. І цяпер можна сказаць, што мы здолелі адрадзіць старадаўнюю рэцэптуру і тэхналогію і захоўваем лакальную традыцыю дзеля ўмацавання нацыянальнай культуры Беларусі. Але сказаць сціпла, бо гэта толькі пачатак шляху, і сапраўднага поспеху можна будзе дасягнуць адзіна пры ўмове і ў выніку каласальнай, адказнай працы, якая мае быць у агляднай будучыні.

***Алена Бобіна (Шатурына),***
*спецыяліст па ахове помнікаў, ініцыятар і кіраўнік шматлікіх праектаў у галіне гісторыка-культурнай спадчыны, музеязнаўца, паэтка.*





# Размовы з Лорэнцам[1]

## Скарочаны пераклад раздзела "У Вільні і Навагрудскай старане"

**Роберт Яроцкі:**

- *У аднаго з вашых блізкіх сяброў, кампазітара Пятра Пяркоўскага, калі я размаўляў з ім пра вашае падпольнае супрацоўніцтва падчас акупацыі, склалася ўражанне, што вы родам з... Вільні. Відаць, калісьці вы былі вельмі моцна звязаны з гэтым горадам.*

**Станіслаў Лорэнц:**

- Я неверагодна ўсцешаны гэтым. Мяркую, што такая здагадка зыходзіла ад Пятра Пяркоўскага падчас яго знаходжання ў Вільні на пачатку 1930-х гг. Ён прыехаў туды з Парыжа, дзе вёў цікавае мастацкае жыццё, і, здаецца, праз Вітольда Гулевіча ўпершыню сустрэў мяне ў Вільні. Я ўжо быў чалавекам вядомым і даволі папулярным, і прынамсі да Вільні і Віленскага краю, быў вельмі эмацыйна прывязаны. Я працаваў там з вялікай аддачай. Магчыма, таму некаторыя сябры, з якімі я пазней больш цесна супрацоўнічаў у Варшаве, часам прымалі мяне за ўраджэнца Вільні. Мы з жонкай успамінаем гэтыя гады як вельмі прыгожыя і вельмі шчаслівыя ў нашым сумесным жыцці.

- *Але як сталася, што вы апынуліся ў Вільні ў якасці кансерватара помнікаў у Віленскім і Навагрудскім ваяводствах?*

- Я скончыў гісторыю мастацтваў у Варшаўскім універсітэце пад кіраўніцтвам прафесара Зыгмунта Батоўскага і атрымаў доктарскую ступень у 1924 годзе на аснове дысертацыі пра варшаўскага архітэктара эпохі Асветніцтва Эфраіма Шрэгера. [...]

Якраз у сярэдзіне 1928 г. былы акругова кансерватар Ежы Рэмер, які шмат зрабіў для Віленшчыны і Навагрудчыны, атрымаў пасаду генеральнага кансерватара помнікаў у Польшчы. Зразумела, гэта звязана з пераездам у Варшаву. Аднак яму трэба было знайсці каго-небудзь прыдатнага на сваё месца ў Вільні. Таму ён папрасіў прафесара Батоўскага парэкамендаваць каго-небудзь з маладых мастацтвазнаўцаў. Прафесар згадаў мяне, і Рэмер прыняў маю кандыдатуру. І вось на пераломе 1928-1929 гадоў у Вільні пасля Ежы Рэмера я пераняў абавязкі кансерватара помнікаў у Віленскім і Навагрудскім ваяводствах, а таксама функцыю загадчыка Мастацкага аддзела ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах.

- *З таго, што я ведаю пра ваш ранейшы спакойны характар, нічога не паказвала на такое рызыкоўнае рашэнне. Вы былі хутчэй кніжным чарвяком, а тут у асноўным патрэбна была арганізацыйная праца, якая патрабавала самастойных рашэнняў і вялікай спрыту. Дык што адбылося насамрэч? Можа, дзякуючы вашаму ўдаламу шлюбу ў вас адбылася такая вялікая перамена?*




- Так, гэта была сапраўды вялікая перамена ў маім жыцці і мысленні. З дзяцінства я дазваляў іншым уплываць на сябе. Хаця, [...] з малодшых школьных гадоў я праяўляў вялікую цікавасць да помнікаў мастацтва, асабліва архітэктуры, і не меў у сабе моцнай прагі да грамадскай актыўнасці. Я не ўзначальваў ніякай групы ці арганізацыі. Будучы падпаручнікам запасу, я таксама не выстаўляў напаказ свае камандзірскія здольнасці. Наадварот, мяне лічылі сімпатычным цывільным, які заблукаў у лесе з усім звязам на манеўрах... Можа, з гэтых прычын мая паездка ў Вільню здзівіла ўсіх маіх сяброў. [...]

Можна сказаць, што слодычам жыцця ў Вільні была ўяўная цішыня. Здавалася, усё спынілася. Таму такое вялікае значэнне надавалася традыцыям, звычаям, культурнай спадчыне і сучаснаму мастацкаму ды грамадскаму жыццю. Кожная падзея ў гэтай галіне адразу ж

[1] Robert Jarocki. Rozmowy z Lorentzem. Panstwowy Instytut Wydawniczy, Warszawa, 1981. S. 75-130.

набывала вялізныя, часам нават карыкатурныя, велізарныя памеры. Людзі рэагавалі больш спантанна, чым я калі-небудзь раней ці пасля, заўважаў. У Вільні ў той час таксама была спрыяльная атмасфера для навукі. Універсітэт Стэфана Баторыя ў многіх галінах быў важным і якасным універсітэтам. Аднак нельга адмаўляць, што існавала варожасць паміж мясцовымі жыхарамі, якія стагоддзямі жылі ў гэтых краях, і намі прыбыўшымі, у асноўным навукоўцамі, пісьменнікамі і дзяржаўнымі чыноўнікамі. І я туды прыехаў новым чыноўнікам. Але я прыняў кансерватарства пасля Ежы Рэмера, які здабыў яму высокі аўтарытэт у мясцовым асветніцкім грамадстве. Ведаючы гэта, мне захацелася неадкладна працягваць тое, што творча рабіў мой папярэднік, нягледзячы на недахоп сродкаў. Я хутка зразумеў, што адной з такіх спраў з'яўляецца кансервацыя руін шыкоўных сярэднявечных замкаў. Я адчуваў, што вакол гэтай мэты можа аб'яднацца не толькі польская, але і тутэйшая думка, бо ўсе жыхары Віленшчыны былі па-свойму патрыётамі гэтай зямлі і любілі помнікі мінуўшчыны. Адным з іх, найвялікшым, самым рамантычным, які бударажыў уяўленне кожнага, быў Троцкі замак. Трокі - невялікі, але вельмі цікавы горад, у той час Трокі былі асноўнай канцэнтрацыяй караімаў, асобнага і надзвычай сімпатычнага і таленавітага насельніцтва, продкаў якога калісьці прывёў у Літву князь Вітаўт. І Вітаўт быў адным з уладароў Троцкага замка (тут і памёр), які потым належаў каралям і вялікім князям літоўскім. Так што можна сказаць, што гэты замак быў дзяржаўным. Але калі ў траўні 1929 г., я як новы віленскі кансерватар, упершыню пачаў уважліва аглядаць замак - памятаю, мяне праводзілі прафесар Юліюш Клос і архітэктар Ян Бароўскі - мы прыйшлі да аднадушнага перакананння, што яшчэ дзесяць ці дваццаць гадоў, і ўсё, што застанецца ад гэтых цудоўных руін, будзе грудай камянёў. У віленскай прэсе на гэты конт ужо напісаны дзесяткі артыкулаў з рознымі патрабаваннямі і настойлівасцю. Я вярнуўся ў Вільню ўсхваляваны і поўны рашучасці неадкладна распачаць кансервацыйныя работы ў Троках, не зважаючы на бюджэт, які не прадугледжваў сродкаў на гэтыя мэты. Я быў у нейкай эйфарыі. Я зразумеў, што ад мяне залежыць, ці адбудзецца нарэшце нешта ў гэтай справе, пра якую гавораць гадамі.

*- І вы, напэўна, зрабілі рызыкоўны крок, і гэта сведчыць аб тым, што ў вас, відаць, мелася азартная жылка.*

- Так. Рашэнне было крыху нестандартным, бо кансервацыйныя работы я вырашыў пачаць за... свае грошы. Дакладней, за грошы, пазычаныя пад мой асабісты вэксаль у Краёвым гаспадарчым банку ў Вільні. Тады, дзякуючы добразычлівасці дырэктара Швыкоўскага, вядомага аматара веславання і аматара помнікаў, я пазычыў 10 000 злотых, каб нарэшце распачаць адбудову руінаў Троцкага замка. Мой папярэднік Ежы Рэмер рыхтаваўся да рэканструкцыі і аховы руінаў, але з-за недахопу грошай у бюджэце кансервацыі не змог рэалізаваць свае планы. Натуральна, калі ў Варшаве даведаліся, што новы малады кансерватар, дзяржаўны чыноўнік, самавольна распачаў адбудову Троцкага замка без зацверджанага бюджэту, над маёй галавой успыхнула бура. Тым часам, аднак, праца пачалася. Нанялі рабочых. Грамадская думка ў Вільні, не кажучы ўжо пра людзей у саміх Троках, цалкам стала на мой бок. Мясцовая прэса высока ацаніла мой учынак. "Дзённік Віленскі" пісаў: *"Новае кансервацыйнае бюро ў Вільні дэманструе высокую мабільнасць. Бліжэйшымі днямі пачнецца кансервацыя руінаў Троцкага замка, што справядліва надае гэтай працы асаблівую ўвагу і максімум сродкаў".*

*- З гэтага я раблю выснову, што мясцовая прэса не ўсвядоміла, што вы пачалі працаваць без грошай.*

- Не. Аднак пазней высветлілася, што з тэхнічнага пункту гледжання я некаторы час вёў будаўніцтва незаконна і таму меў праблемы з міністэрствам. Я атрымаў разуменне ў такіх справах, бо, як вядома, усё маё далейшае жыццё было напоўнена рызыкоўнымі хадамі, якія не падабаліся як даваеннай, так і пасляваеннай бюракратыі...

Што да гэтага крэдыту, то пэўны час я яго спраўна выплачваў са сваёй кішэні. Толькі потым мне афіцыйна далі бюджэтныя пазыкі на рэканструкцыю руінаў Троцкага замка і вярнулі большую частку маіх унёскаў. З майго прыватнага рахунка быў спагнаны толькі нейкі працэнт ад пазычанай сумы ў памеры некалькіх сотняў злотых. Але адбудова ішла поўным ходам, і віленская грамадскасць лічыла мяне паважанай асобай не толькі ў справах аховы помнікаў, але і ў іншых праблемах культурнага жыцця. Рэстаўрацыя руінаў Троцкага замка, паводле прынятага дапушчэння, паспяхова завяршылася пасля нашага ад'езду з Вільні.

*- Вы не хацелі чакаць бюджэтных грошай?*

- Калі б я хацеў быць проста чыноўнікам, які пераносіў паперы са стала на стол, я мог бы працаваць і, магчыма, паспяхова прасоўвацца па службовай іерархіі ў міністэрстве ў Варшаве. Але калі я вырашыў працаваць кансерватарам, хоць і быў зусім навічком у Вільні, трэба было сапраўды дзейнічаць. Менавіта ў Вільні, ужо ў першыя гады маёй працы, я зразумеў, што тое, што называецца арганізацыйнымі здольнасцямі, акрамя, вядома, правільна абранай мэты, заключаецца ва ўменні рэалізаваць смелыя праекты, падтрыманыя грамадскай думкай. Але для гэтага патрэбна смеласць прыняць рашэнне, а затым і настойлівасць яго рэалізаваць. І, вядома, вам патрэбны саюзнікі, без іх вы - Дон Кіхот. Так што ўжо тады я зразумеў, што не варта марнаваць час на пасіўнае чаканне, што нешта адбудзецца недзе за маёй спіной.

*- Кансервацыя руінаў Троцкага замка, наколькі мне вядома, лічылася тагачаснымі літоўскімі кансерватарамі і мастацтвазнаўцамі найважнейшым дасягненнем даваенных польскіх кансервацыйных уладаў у Вільні. Ваша імя з прызнаннем згадваецца ў літоўскай літаратуры на гэтую тэму. Аднак у пасляваенныя гады літоўцы правялі поўную рэканструкцыю замкавага комплексу, не жадаючы задавальняцца толькі захаваннем*





*руінаў. Справа ў розных канцэпцыях і іншым падыходзе да кансервацыі такіх старых помнікаў ці ў большых выдатках на гэтыя мэты?*

- Апошні даваенны кансерватар Вітольд Кяшкоўскі ўжо распачаў поўную рэканструкцыю Троцкага замка. Да гэтага імкнуўся і прафесар Ксаверый Півоцкі. Так што адносіны змяніліся яшчэ да вайны. Справа была не ў грошах, а ў падыходах да справы - рэканструяваць усё ці пакінуць руіны пад аховай. Поўнай адбудовы літоўцы дамагаліся яшчэ да вайны. [...]

Маё ўражанне аб Троках? Трэба сказаць, што я быў шакаваны, калі ўбачыў замкавы комплекс на востраве такім зусім іншым, чым той, які быў у маёй памяці. Тракайскі замак быў ужо цалкам адноўлены. Рыштаванняў няма. Вы падымаліся па лесвіцы вежы, але ў канцы вам трэба было падняцца праз акно на вонкавую лесвіцу і падняцца па гэтай вонкавай лесвіцы на вельмі высокую мансарду, каб нарэшце дасягнуць самай высокай кропкі, з якой можна было бачыць панараму усёй плошчы. Я вагаўся, бо гэтыя лесвіцы мне не падыходзілі. Бо мне было ўжо семдзесят чатыры гады. Але я перамог. Мне немагчыма паехаць адсюль, не пабачыўшы від з вежы на возера і наваколле! Пераадольваючы страх, я працягваў падымацца... Залез на самы верх праз самыя высокія вокны. Я сустрэў там некалькі чалавек, у тым ліку маладога моцнага літоўца, які назіраў цудоўныя краявіды, што цягнуліся з усіх бакоў. Так праз шмат гадоў зноў убачыў я белы палац Тышкевічаў у Затроччы, і той самы бераг возера, што і раней. Ландшафт не змяніўся. Там так жа прыгожа, як і раней. Змяніўся толькі сам замак, бо ў мае часы тут былі толькі вялікія і манументальныя руіны. Нацешыўшыся знаёмымі відамі, я падумаў пра сябе, як жа цяпер спусціцца. Бо ўсё ж падымацца заўсёды лягчэй, чым спускацца. Вельмі мілыя і ветлівыя маладыя літоўцы, зразумеўшы сітуацыю (яны даведаліся, што я польскі турыст), прапанавалі мяне падстрахаваць. Моцны ішоў перада мной, я пасярэдзіне, а за мною другі малады чалавек. І вось мы павольна спускаліся. Мая жонка стаяла ўнізе страшэнна напалоханая і назірала за гэтым дзіўным спускам. Яна думала, што са мной нешта здарылася і што яны мяне нясуць. Яна не ведала, што я дайшоў да вяршыні, таму што спачатку гаворка ішла толькі пра тое, каб падняцца па галоўнай лесвіцы. Але ўсё скончылася добра, і я зноў убачыў Трокі з вяршыні вежы. [...]

У 1930 годзе, калі мая справаздача аб кансервацыйных работах у Троках была замоўлена і надрукавана ў часопісе Польскага турыстычнага таварыства "Зямля", які друкаваўся ў Варшаве, над маёй галавой успыхнула бура. Мяне і ваяводу, канцылярыя Прэзідэнта РП па асабістым распараджэнні прэзідэнта Масціцкага запатрабавала прыцягнуць да адказнасці за... адсутнасць патрыятызму.

"Да чаго ўсё гэта дайшло?" - крычалі яны, віленскі кансерватар Лорэнц хваліцца, што для кансервацыі замка ў Троках прыцягнуў спецыяльных нямецкіх муляроў, бо яны лепшыя!

"Я не разумею, пра што вы кажаце", - здзівіўся я, пачуўшы гэтыя абвінавачванні.

"Зрэшты, вы самі пісалі ў "Зямлі", што нанялі нямецкіх муляроў, таму што ў Вільні і ваколіцах няма адпаведных, а лепшыя - немцы. Спадар прэзідэнт патрабуе неадкладнага пакарання за такое стаўленне!"

"Пачакайце! Нямецкіх муляроў я ў Трокі не наймаў, а прывёз івянецкіх муляроў з Івянца Лідскага павета. Яны сапраўды выдатныя муляры. Вы памыліліся. Крыўдна".

У міністэрстве ўздыхнулі з палёгкай, і пачаліся тэлефонныя і пісьмовыя тлумачэнні ў адваротным кірунку.

- *Чым скончылася гэтая гісторыя?*

- Нічым. Як раптоўна зазванілі дзесяткі тэлефонаў, так і змоўклі. Прызнацца, мне заўсёды было прыемна расказваць пра тое, з-за якіх абвінавачванняў я павінен быў быць прыцягнуты да адказнасці па загаду самога прэзідэнта!

- *Яўрэі складалі значны адсотак мясцовага насельніцтва. Што гэта былі за яўрэі і чым яны адрозніваліся ад варшаўскіх яўрэяў, якіх вы раней ведалі?*

- Я выхоўваўся ў асяроддзі, якому нацыяналізм быў чужы. Такое добразычлівае і роўнае стаўленне да ўсіх нацыянальнасцяў узмацнілася ўва мне падчас вучобы ва ўніверсітэце. У студэнцкія гады і пазней у мяне заўсёды былі сябры-яўрэі. Нашы адносіны былі і застаюцца нармальнымі, такімі, якія характарызуюцца людзьмі, якія грунтуюць узаемную павагу на стабільнай і рацыянальнай аснове. Больш за тое, трэба сказаць, што для мяне вызначальным ёсць не маё паходжанне, а маё самаадчуванне і самавызначэнне.

Я рэдка бываў на яўрэйскіх вуліцах Варшавы, такіх як Гэнся, Налеўкі ці Навалiпкі. Я ведаў пэўны стэрэатып яўрэя ці яўрэйкі, але жыццё варшаўскіх яўрэяў мяне не цікавіла, бо гэта была зусім асобная плынь, як я потым зразумеў. Аднак, працуючы на Віленшчыне і Наваградчыне, будучы ўжо цалкам дарослым, я сапраўды ўбачыў яўрэйскі свет з яго страшэннай галечай і паўсюдным брудам, які вынікае з цеснаты і адсутнасці элементарных санітарных установаў. Я маю на ўвазе тыя тысячы яўрэйскіх сем'яў, якія зараблялі на жыццё дробным гандлем, шавецтвам, кравецтвам, фактарствам, продажам усяго, што заўгодна. Больш уважліва я ўбачыў і дзейнасць яўрэйскіх шпекулянтаў, тых, хто сваёй бязлітаснасцю і сквапнасцю (адваротным бокам свайго фаталістычнага, пасіўнага стаўлення да жыцця), распальваў антысеміцкія настроі сярод польскага і літоўскага насельніцтва і сярод заўсёды найбольш падвержанага эксплуатацыі і найбольш шматлікага беларускае насельніцтва. [...]

- *Зараз я прапаную вам больш падрабязна апісаць сваё афіцыйнае становішча ў Вільні і Навагрудку. Можа, пачнем з ваяводаў. Хто быў віленскім ваяводам, калі вы занялі пасаду?*

- Уладзіслаў Рачкевіч быў маім першым віленскім ваяводам, тым, хто ўвёў мяне ў мясцовы афіцыйны і грамадскі свет. Я захаваў пра гэтага чалавека добрую памяць. У самы трагічны момант Другой Рэчы Паспа-



№ 15 (119) 10 КРАСАВІКА 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

літай, пасля адстаўкі Ігнацыя Масціцкага, пасля вераснёўскай паразы, Рачкевіч, як вядома, паводле красавіцкай канстытуцыі 1935 года стаў законным прэзідэнтам Польскай дзяржавы. Але гэта толькі адступленне, бо мы павінны гаварыць пра час майго знаходжання ў Вільні.

- *Хацелася б ведаць, што вы думаеце пра Уладзіслава Рачкевіча як палітыка. На мой погляд, ён не быў сапраўдным дзяржаўным дзеячам. Ён проста належаў да групы людзей, набліжаных да Пілсудскага, але ніколі не фармаваў палітыку яго лагера. Выконваў розныя функцыі: раз ці два быў міністрам унутраных спраў, здаецца, у кабінеце Казіміра Бартэля, потым зноў ваяводам віленскім, маршалкам сената і, нарэшце, у апошні перадвераснёўскі перыяд Польшчы, ваяводам Паморскім і прэзідэнтам у выгнанні. Прэзідэнтам Польшчы ён стаў абсалютна выпадкова.*

- Вы ўцягваеце мяне ў шпекуляцыі, якія мне не падабаюцца, таму што я не адчуваю сябе абавязаным выносіць меркаванні аб кваліфікацыі палітыкаў. Аднак, паколькі вы ўжо самі зрабілі некаторыя ацэнкі, пагаджуся, што Уладзіслаў Рачкевіч не належаў да ліку аўтарытэтных палітыкаў II Рэчы Паспалітай і не быў насамрэч дзяржаўным дзеячам у поўным сэнсе гэтага слова. Але ён быў, на мой погляд, сумленным палітыкам, поўным добрай волі ў выкананні розных абавязкаў. Будучы віленскім ваяводам, ён запомніўся сваёй мудрай палітыкай у адносінах да ўсіх нацыянальных меншасцей, якія пражывалі ў гэтым ваяводстве. Яго таксама цаніў маршал Пілсудскі як вернага і непадкупнага чалавека. Дадам, што Рачкевіч быў чалавекам далікатным, надзвычай добра выхаваным і заўсёды вельмі ветлівым. Гэта быў прыгожы, высокі, стройны і прэзентабельны мужчына.

Цяпер я вяртаюся да перапыненых вамі ўспамінаў пра адносіны мае і маёй жонкі з панам і паняй Рачкевічамі. Калі мінулі першыя месяцы маёй працы ў Вільні і ваявода склаў пра мяне нейкае меркаванне (ён таксама зразумеў, што я ў пэўным сэнсе незалежны ад службовых заробкаў), адразу пазнаёміў нас з мясцовым асяроддзем. Памятаю, што гэта адбылося з нагоды прадстаўнічага балю, які ваявода Рачкевіч ладзіў у сваёй афіцыйнай рэзідэнцыі, былым грандыёзным біскупскім палацы, званым Палацам Рэспублікі. Мы прыйшлі на баль крыху раней, я ў фраку, а жонка ў вячэрняй сукенцы, як было прынята ў той час. Муж і жонка Рачкевічы трымалі нас з сабой увесь час, пакуль сустракалі гасцей. І такім чынам усе афіцыйныя асобы, такія як прэзідэнт дзяржаўных чыгунак, старшыні судоў, банкаў, наглядчык школьнай акругі, дырэктар дзяржаўных лясоў, прадстаўнікі ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, рэдактары мясцовых газет і г.д., пазнаёміліся з намі і былі належным чынам прадстаўлены нам ваяводам. Гэта быў адзін з ветлівых, жэстаў Уладзіслава Рачкевіча, якімі ён здолеў заваяваць добразычлівасць сваіх калег.

За час сямігадовага знаходжання ў Вільні мы мелі магчымасць зблізку пабачыць маршала Юзафа Пілсудскага, які ў той час даволі часта прыязджаў у Вільню. Памятаю, аднойчы ў адносна невялікай, пераважна жаночай групе, у гасцёўні ваяводы Рачкевіча, за гарбатай, якую любіў піць маршал, ішла размова пра ролю жанчыны ў жыцці Польшчы. На гэтую тэму маршал Пілсудскі перакінуўся некалькімі словамі з маёй жонкай.

Памятаю таксама адну падзею з вялікага прыёму, які зладзіў віленскі ваявода ў сваім прадстаўнічым салоне, і ў якім удзельнічаў маршал Пілсудскі. Было гэта 17 красавіка 1933 года. Мы ўсе чакалі прыезду маршала, стоячы ў вялікай зале, сярод шматлікіх гасцей вылучалася група святароў з розных касцёлаў і рэлігійных канфесій на чале з арцыбіскупам Ялбжыкоўскім і яго прэлатамі. Гэта быў перыяд астуджэння адносін паміж гэтым царкоўным саноўнікам і вышэйшымі дзяржаўнымі ўладамі. Увайшоў маршал Пілсудскі са сваёй світай, хутка і рашуча агледзеў чэргі чакаўшых, прайшоў міма арцыбіскупа Ялбжыкоўскага і яго паплечнікаў і спыніўся толькі перад галоўным рабінам Вільні, якога вельмі сардэчна прывітаў і пачаў вясёлую размову. Натоўп анямеў. Усе глядзелі на епіскапаў у пурпуры, твары якіх пачырванелі ад абурэння, але маршал працягваў мімаходзь пытацца пра здароўе рабіна. Калі ён ужо збіраўся сыходзіць, рабін, прадстаўнічы мужчына ў шаўковым халаце, страціў прытомнасць ад уражання і ўпаў да ног маршала. Узнікла блытаніна. Нехта кінуўся на дапамогу.

Але, я б вярнуўся да асобы Уладзіслава Рачкевіча. Памятаю смешны выпадак, звязаны з першым візітам ветлівасці, калі нас наведалі сужэнцы Рачкевічы. Мы раней былі ў іх на падвячорку і яны таксама прышлі на падвячорак да нас. Памятайце, гэта былі часы, калі вялікае значэнне надавалася формам адносін і пільна выконваўся пэўны рытуал. У дадзеным выпадку гэта быў візіт высокага саноўніка, ваяводы, да аднаго з падначаленых яму чыноўнікаў. Жонка, спецыяльна рыхтуючыся да падвячорку, уключыла электрычную кавамашыну, рэкламаваную ў той час як гарантыя выдатнай кавы. А можа, гэта была бензінавая кавамашына, я яе дрэнна памятаю. Ва ўсякім разе, прыгатаванне адбывалася на вачах гасцей. Муж і жонка Рачкевічы прыбылі своечасова. У гасцёўні нашага першага жытла ў Вільні, арандаванай вілы, мы чакалі, пакуль зварыцца цудоўная кава. На талерках ляжалі садавіна і печыва, прыдатныя на падвячорак. На пачатку было крыху няёмка, але спачатку інакш і быць не магло. Вось пачулася характэрнае для паравых апаратаў шыпенне, і, да найвялікшага нашага здзіўлення, а маёй жонкі - да вялікага жаху і збянтэжанасці, з рыльца машыны ў збан палілася крышталёва чыстая... вада. Трэба сказаць, што Уладзіслаў Рачкевіч паводзіў сябе вельмі абаяльна. Ён радасна прапанаваў дапамогу. Праз некаторы час машына напоўнілася молатай кавай, якую жонка рассеяна забылася дадаць. Рытуал паўтарыўся ў вельмі вясёлым настроі. Кава, звараная такім сучасным спосабам, атрымалася вельмі якаснай, а падвячорак прайшоў у прыемнай і сяброўскай атмасферы.

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Хакеісты, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, а таксама простыя працаўнікі: Мялешка, Рыбакоў, Саўчанка*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-14 (105-118) за 2024 г.)*

**МЯЛЕШКА Дзмітрый** - ураджэнец Менска, хакеіст, які супрацьстаяў на лёдзе Крысу Сайману, аджыбвэ па бацьку.

КХЛ была ўтвораная ў 2008 г.; Сайман пачаў гуляць за "Віцязь" з Чэхава з 2008 г.; Мялешка ў сезоне 2007-2008 чэмпіянату Расіі выступаў за маскоўскі "Спартак"; у 2008-ым жа годзе Дзмітрый падпісаў кантракт з новасібірскай "Сібірру", але ў снежні яго "выкупіла" менскае "Дынама". Мялешка гуляў за юніёрскую і асноўную зборныя Беларусі з 2000 па 2010 г. (уключаючы чэмпіянаты свету і Алімпіяду-2010, Ванкувер).

Крыс Сайман (Chris Simon; 1972, Вава, Антарыя - 18.03.2024, там жа) - тафгай; найбольшы поспех - Кубак Стэнлі 1996 г. у складзе "Каларада эвеланш".

Wawa - гэта township у Algoma District, які раней называўся Township of Michipicoten. Гістарычна існаваў Fort Michipicoten.

Спачатку Крыс гуляў у Хакейнай лізе Антарыя (Ontario Hockey League) за "Атава сіксці сэвэнс" і "Су-Сент-Мары грэйхаўндс" (Sault Ste. Marie Greyhounds). Ён мог стаць алкаголікам яшчэ з падлеткавага ўзросту, але застаўся ў спорце дзякуючы індзейцу хакеісту і трэнеру Тэду Нолану.

Развітваючыся з "Віцязем" ў 2011 г., ён падпісаў кантракт доа канца сезону з маскоўскім "Дынама", у 2011-2013 гг. гуляў за "Металург" (Новакузнецк).

У 2017 г. у Крыса выявілі хранічную траўматычную энцэфалапатыю, паступова ў яго зніжалася працаздольнасць, развіваліся дэпрэсія, артрыт, посттраўматычнае стрэсавае расстройства. У выніку ён памёр ва ўзросце 52 гадоў (самазабойства). Зразумела, што прыклад Крыса не спрыяе станоўчаму вобразу хакею, а хутчэй прымушае выбіраць звычайную хадзьбу - не бег, не бокс і не спаборніцтвы, спартыўныя яны ці пазаспартыўныя.



INDIAN FRIENDSHIP CENTRE NEWSLETTER

FEBRUARY 28, 1990
MARCH-APRIL '90 EDITION

SAULT STE. MARIE, ONTARIO
(705) 256-5634

BOARD OF DIRECTORS

HELEN GREGOIRE - PRESIDENT
GREG DAYFOX - VICE-PRESIDENT
JULIA RIVERS - TREASURER
GENNY BOYER - SECRETARY
PAM PINE - BOARD MEMBER
CAROLE ST. PIERRE - BOARD MEMBER
DON MCGORMAN - BOARD MEMBER

CORE STAFF

MARY DESMOULIN - EXECUTIVE DIRECTOR
CATHY SYRETTE - EXECUTIVE SECRETARY
TERRI-LYNN COULIS - REFERRAL WORKER
MAXINE SOLOMON - RECEPTIONIST
STEVE FERCHUK - MAINTENANCE

PROGRAM STAFF

CAROLYN HARRINGTON - COMMUNITY DEVELOPMENT WKR.
FLORENCE GRAY - LITERACY COORDINATOR
HEATHER PELKY - LITERACY ASSISTANT
LAURA DAY - OUTREACH COUNSELLOR
JUANITA CHAPMAN - OUTREACH ASSISTANT (JOB DEVELOPMENT PRGM.)
ROGER DAYBUTCH - FAMILY COURTWORKER
CLAUDETTE MCLEOD - CRIMINAL COURTWORKER
MARLENE ANTONIOW - HEALTH WORKER
SHIRLEY AGAWA - LIL BEAVERS COORDINATOR

PART-TIME WORKERS

ROLAND NIGANABE - SUPERVISOR (DROPIN CTR.)
KEVIN NEVEAU - RECREATIONAL ASSISTANT
WANDA TRUDEAU - SECRETARIAL ASSISTANT

HORNEPAYNE OFFICE

LAURA MEDEIROS - COMMUNITY DEVELOPMENT WORKER
JUDY MAYHEW - PART-TIME SECRETARY
LAUREEN STEFANIC - AWASHESHUK CENTRE SUPERVISOR
ISOBEL DUBE - PART-TIME SECRETARY
MARGARET MILLER - MAINTENANCE WORKER

HAPPY EASTER FELLOW READERS & FRIENDS!
SUNDAY, APRIL 15, 1990

MARCH - APRIL 1990
NEWSLETTER

*Indian Friendship Centre Newsletter (Sault Ste. Marie, Ontario) 1990 Mar.-Apr. front page*



SAULT STE. MARIE
INDIAN FRIENDSHIP CENTRE
29 WELLINGTON STREET EAST
SAULT STE. MARIE, ONT.

CANADA

PRINTED MATTER

SIMAKOU, ALES
5 MICRO-DISTRICT, 19-78
GOMEL, BSSR

INDIAN FRIENDSHIP CENTRE
29 WELLINGTON STREET E., SAULT STE. MARIE, ONTARIO P6A 2K9
(705) 256-5634 or 256-5635

**MEMBERSHIP FORM**

NAME: ............ DATE: ............
ADDRESS: ............ CITY: ............
PROVINCE: ............ POSTAL CODE: ............
DATE OF BIRTH: ............ SPOUSE/D.O.B.: ............
............ NATIONALITY: ............
CHILDREN (PLEASE INCLUDE AGES): ............

TYPE OF MEMBERSHIP: ELDERS - FREE FAMILY $2.00 SINGLE $1.00 ORGANIZATION $2.00

MEMBERSHIP IN YOUR CENTRE ENTITLES YOU TO VOTE AT ANNUAL MEMBERSHIP MEETINGS, RUN FOR A POSITION ON THE BOARD OF DIRECTORS, PARTICIPATE IN ANY OF THE CENTRE'S ACTIVITIES AND TO RECEIVE OUR NEWSLETTER.

*Indian Friendship Centre Newsletter (Sault Ste. Marie) 1990 Mar.-Apr. back page*




*Буклеты з Антарыа, у т.л. Algoma Community Legal Clinic*




*Canadian (CPA) mental health information for Belarus*

Адным з прыкладаў перакрыжаванняў Мялешкі і Саймана можа служыць матч 7.11.2010 г. у чэмпіянаце КХЛ, калі менскае "Дынама" абыграла ў гасцях "Віцязь" па булітах - 5:4 (1:1, 1:2, 2:1, 0:0, буліты - 2:1). Дзмітрый Мялешка забіў гол і адзін раз быў асістэнтам, у Крыса Саймана - адзін гол. Затым былі буліты: 0:1 (Крыс Сайман), 1:1 (Дзмітрый Мялешка), 1:1 (Георгій Белавусаў - варатар), 2:1 (Джэф Плат), 2:1 (Вадзім Берднікаў).

**РЫБАКОЎ Валянцін** (Valentin Rybakov, Valiantsin Rubakou) - сын вайскоўца, нарадзіўся ў Томску, але ў яго раннім дзяцінстве сям'я пераехала ў Беларусь. У МДПІЗМ

Mrs. Erica-Irene Daes
Chairperson
Working Group on Indigenous Populations
Centre for Human Rights
United Nations
CH-1211 Geneva 10
Switzerland

December 8, 1995

Dear Mrs. Daes:

We were disappointed to become aware that the March 3, 1995 decision has made possible the "Action alert..." and other protests on behalf of Native representatives involved in the "adoption" process.

Unfortunately, we have not a copy of the Russian text of the Draft Declaration on the Rights of Indigenous Peoples; even not adopted, it should be translated into Belarusian and published in our country.

We are grateful for your attention to many Indigenous issues in the Americas, such as the case of the Lubicon Cree, and we would like to know more about the current work of both the Working Group and the whole UN Centre for Human Rights.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

*Letter to Erica-Irene Daes, Chairperson, Working Group on Indigenous Populations, Centre for Human Rights, United Nations (Geneva, Switzerland) 1995-12-08*

вывучаў англійскую і французскую мовы. З 1993 г. на дыпламатычнай службе. У 1994 г. прайшоў трохмесячную стажыроўку для дыпламатаў з краін былога СССР у Інстытуце знешнепалітычнай службы Дзярждэпартаменту ЗША. У 1994-1999 гг. працаваў першым сакратаром пасольства ў ЗША. У 1999-2001 гг. - начальнік упраўлення міжнароднай бяспекі і кантролю над узбраеннямі МЗС. У 2001-2003 гг. - дарадца Пастаяннага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН. У 2003-2005 г. - дарадца, дарадца-пасланнік пасольства ў ЗША. У 2005 годзе прызначаны начальнікам упраўлення Амерыкі, у 2005-2006 гг. - пасол па асобых даручэннях МЗС. У 2013-2017 гг. - намеснік міністра замежных спраў. 7.08.2017 г. прызначаны на пасаду пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН.

На сваім 4-м пленарным пасяджэнні 19.10.2018 г. Эканамічны і сацыяльны савет ААН выбраў Рыбакова намеснікам старшыні Савета на 2018-2019 гг. У гэтай якасці Рыбакоў прысутнічаў і пры абмеркаваннях на 18-ай сесіі Пастаяннага форуму ЭКАСАС па пытаннях карэнных народаў, якая працягвалася з 22.04.2019 г. па 3.05.2019 г. (Economic and Social Council / Permanent Forum on Indigenous Issues). Сесіі форуму праводзяцца адзін раз у год у Нью-Ёрку.

Ніжэй мы працытавалі тэзісы па агульных момантах і выступленнях удзельнікаў з амерыканскіх краін з агляду 1-й і 2-й сустрэчы 22.04.2019 г. (HR/5431; наш праўлены электронны пераклад з англійскай).

*"Традыцыйныя веды ляжаць у аснове самабытнасці, культуры, моў, спадчыны і сродкаў да існавання карэннага насельніцтва, і іх перадачу ад аднаго пакалення да наступнага неабходна абараняць, захоўваць і заахвочваць, падкрэслілі выступоўцы на Пастаянным форуме па пытаннях карэннага насельніцтва сёння, адкрываючы яго васямнаццатую сесію.*

The International Decade
of Indigenous Peoples
Department of Public Information
Room S-1040
United Nations
New York, NY 10017
USA

December 20, 1995

Dear Sir/Madam:

We would be grateful for general information on the International Decade for the World's Indigenous People which could help us to involve more Belarusians in its activities.

BAIS is the only Belarusian group working on behalf of tribal and stateless peoples.

We also would like to have the current addresses of the indigenous organizations which have obtained consultative status with the ECOSOC.

We are pleased if the draft Declaration on the Rights of Indigenous Peoples endangered on March 3, 1995 has been or will be soon adopted.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to United Nations, Department of Public Information (New York, NY) 1995-12-20***




***Envelope from United Nations (New York), no postmark date, pm Gomel 1996-05-13, received 1996-05-14***

Mr. Julian Berger
Secretary
Working Group on Indigenous Populations
UN Centre for Human Rights
Palais des Nations
CH-1211 Geneva
Switzerland

April 9, 1996

Dear Mr. Berger:

Our letters are still probably at risk within the national post system, if they wear labels "Human Rights" or "Native Solidarity" on the envelope.

Have you received our letter of December 8, 1995 (addressed: Mrs. Daes)?

We have had some additional information on the Draft Declaration from the Indian Law Resource Center, but there is no indications of final "adoption" steps and we still have no its Russian translation.

We would be thankful for any current reports on your efforts. Does your Group publish a bulletin or newsletter?

Sincerely yours,

Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to Julian Burger (erroneously Berger), Secretary, Working Group on Indigenous Populations, UN Centre for Human Rights, Palais des Nations, Geneva, Switzerland 1996-04-09***

*Спецыяльная тэма сёлетняга форуму "Традыцыйныя веды карэнных народаў: стварэнне, перадача і абарона" - гэта магчымасць падзяліцца інавацыямі і практыкамі, выпрацаванымі ў карэнных супольнасцях на працягу стагоддзяў і тысячагоддзяў, сказала Пастаянны старшыня Форуму Эн Нуоргам [Anne Nuorgam, Sami, саамі].*

*"Мы павінны гарантаваць, што наша адукацыйная практыка, мовы, захаванне навакольнага асяроддзя і кіраванне прызнаюцца і паважаюцца ва ўсім свеце, не толькі ўрадамі, але і ўсімі народамі"*, - падкрэсліла яна.

*Традыцыйныя веды перадаюцца паміж пакаленнямі праз гісторыі, песні, танцы, разьбу, карціны і спектаклі. Аднак глабальныя гісторыі каланіялізму, эксплуатацыі і пазбаўлення ўласнасці працягваюць падрываць і недаацэньваць гэтыя аспекты. У многіх краінах дзеці і моладзь карэннага насельніцтва не навучаюцца на сваёй роднай мове. Заклікаючы да фінансавай і тэхнічнай падтрымкі з боку дзяржаў-членаў і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, яна заклікала "ўсіх нас пераканацца, што нашы дзеці і наша моладзь звязаныя са сваёй карэннай супольнасцю і іх культурай, якая непарыўна звязаная з іх землямі, тэрыторыямі і прыроднымі рэсурсамі".*

*Марыя Фернанда Эспіноса (Эквадор), старшыня Генеральнай Асамблеі, падкрэсліла, што традыцыйныя веды займаюць ключавое месца ў шэрагу дзеянняў, неабходных для змякчэння наступстваў змены клімату. Перадача гэтай інфармацыі паміж пакаленнямі мае жыццёва важнае значэнне, як і выкарыстанне патэнцыялу моладзі і жанчын. Падкрэсліваючы важнасць захавання моў, яна адзначыла, што назапашаныя тысячагоддзямі веды па медыцыне, метэаралогіі, сельскай гаспадарцы і іншых галінах знаходзяцца пад пагрозай назаўжды знікнуць. Адносна гатоўнасці да сур'ёзных праблем, якія чакаюць наперадзе, яна сказала, што намаганні павінны ўключаць садзейнічанне лепшаму разуменню традыцыйных ведаў і пошук шляхоў умацавання голасу карэнных народаў у ААН.*

*Віцэ-прэзідэнт Эканамічнага і сацыяльнага савета Валянцін Рыбакоў (Беларусь) адзначыў, што тэма форуму 2019 г. своечасовая з улікам велізарнай ролі ведаў карэнных народаў ва ўстойлівым развіцці. Аднак памылковыя ўяўленні часта класіфікуюць традыцыйныя віды дзейнасці [categorize traditional activities] як неінфармаваныя і тыя, што наносяць шкоду навакольнаму асяроддзю, калі насамрэч веды карэнных народаў аб іх землях уключаюць шырокі спектр пасяховых практык. Ён заклікаў дзяржавы-члены працягваць супрацоўнічаць з карэннымі народамі ў рэалізацыі Мэт і ў паведамленні звестак для добра-*

OFFICE DES NATIONS UNIES A GENÈVE — UNITED NATIONS OFFICE AT GENEVA

CENTRE POUR LES DROITS DE L'HOMME — CENTRE FOR HUMAN RIGHTS

Télégramme : UNATIONS, GENÈVE
Téléphone : +41 22 917 3413 · 917 3406
Téléfax : +41 22 917 0212
E-mail: jburger.hchr@unog.ch



Palais des Nations
CH-1211 Genève 10

*International Decade of the World's Indigenous People 1995-2004*

Réf. N° :
(à rappeler dans la réponse)

Geneva, 9 May 1996

Dear Mr. Simakou,

Thank you very much for your letter of 9 April asking for current information on the Draft Declaration.

The draft United Nations declaration on the rights of indigenous peoples has been adopted by the Sub-Commission on Prevention of Discrimination and Protection of Minorities at its 46th session in 1994. The draft declaration is now being considered in a new open-ended inter-sessional Working Group which was established by the Commission on Human Rights in March 1995. This open-ended Working Group met for the first time from 20 November to 1 December 1995. It will meet again in October/November of this year. The 1996 session of the Working Group on Indigenous Populations will be held in Geneva from 29 July to 2 August.

Please find enclosed a copy of the draft declaration and of the report of the open-ended Working Group in Russian. The Working Group on Indigenous Populations does not publish a newsletter.

We look forward to hearing from you again.

Yours sincerely,
Julian Burger
Julian Burger

Mr. Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian- American Indian Society
P.O: Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter from Julian Burger, United Nations Office at Geneva, Centre for Human Rights (International Decade of the World's Indigenous People 1995-2004) 1996-05-09***




***Envelope from Centre pour les Droits de l'Homme (Centre for Human Rights) (Geneve, Switzerland) no postmark date, received 1996-05-23 (letter of 1996-05-09)***

*ахвотных нацыянальных аглядаў [in reporting for voluntary national reviews]".*

Высокапастаўлены прадстаўнік Аб'яднаных Нацый акцэнтавала ўвагу на своеасаблівую "запазычанасць", якая не "пагашаная" ў адносінах да карэнных народаў:

*"МАРЫЯ ФЕРНАНДА ЭСПІНОСА (Эквадор), старшыня Генеральнай Асамблеі [MARIA FERNANDA ESPINOSA (Ecuador), President of the General Assembly], сказала, што ў Дэкларацыі аб правах карэнных народаў гаворыцца, што яшчэ шмат трэба зрабіць для забеспячэння правоў карэнных народаў ва ўсім свеце. Тэрміновыя меры павінны, сярод іншага, ліквідаваць прабелы ў рэалізацыі і вырашыць пытанне выплаты велізарнага доўгу карэнным народам [repayment of an enormous debt to indigenous peoples], надаючы пільную ўвагу ахове здароўя, адукацыі і іншым важным сферам. Акрамя таго, жанчыны з карэннага насельніцтва сутыкаюцца з большай дыскрымінацыяй, чым іншыя, нават калі яны з'яўляюцца важнымі фактарамі перамен у сваіх супольнасцях, сказала яна, падкрэсліўшы важнасць стратэгій і праграм, накіраваных на пашырэнне іх правоў і магчымасцей".*

Далей агляд думак выступоўцаў па Амерыцы даюцца намі ў алфавітным парадку.

*"ДАЛІ АНГЕЛ, кіраўнік аддзела карэннай моладзі Фонду развіцця карэнных народаў Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна [DALI ANGEL, Head of the Indigenous Youth Division, Fund for the Development of the Indigenous Peoples of Latin America and the Caribbean], сказала, што "нашы мовы з'яўляюцца сувяззю з нашай спадчынай, яны святыя, зближаюць нас з нашымі братамі і наша аснова нашага жыцця [our foundation to our lives]". Спасылаючыся на дыскрымінацыю і забабоны, якія існуюць у дачыненні да моў карэнных народаў, яна заклікала ўрады прыняць меры для абароны культуры і спадчыны карэнных народаў. Прагрэс можна заўважыць у Балівіі і больш шырокім Лацінскім рэгіёне [Latin region], дзе былі зробленыя крокі, каб прадэманстраваць павагу да моў карэнных народаў шляхам стварэння саюзаў [alliances] са сродкамі масавай інфармацыі, грамадзянскай супольнасцю і прыватным сектарам. Павінны быць інклюзіўны ўдзел і бяспечная рэгіянальная прастора для абмеркавання пытанняў, звязаных з мовамі карэнных народаў".*

*"РОН ЛЭЙМАН, Міжнародны савет па індзейскіх дагаворах [RON LAMEMAN, International Indian Treaty Council], заявіў: "Калектыўна мы абавязаны нашым будучым пакаленням гарантаваць, што мы можам працягваць выкарыстоўваць нашы цудоўныя мовы [beautiful languages]". Нягледзячы на іх цэнтральнае значэнне ў паўсядзённым жыцці і ведах, мовы карэнных народаў ва ўсім свеце знаходзяцца пад пагрозай з-за працэсаў каланізацыі - у тым ліку ў Злучаных Штатах і Канадзе - а таксама з-за спадчыны прымусовай асіміляцыі ў школах-інтэрнатах [residential and boarding schools]. Абарона, адраджэнне і перадача моў карэнных народаў з'яўляецца цэнтральнай асновай*

International work group
for Indigenous Affairs
Fiolstraede 10
DK-1171 Copenhagen, Denmark

December 23, 1990
Gomel

Dear Sirs:

Our society is an Americanist and internationalist organization. We work since 1987 and have many correspondents in the USA and Canada. Unfortunately, our Latin American and European (Native American emigrants and Indianists) contacts are not so successful.

We need information on any pro-Indian activities in Europe, and more perspective addresses in the Americas.

We are interested in programs and achievements of the IWGIA and other similar organizations (World Council of Indigenous Peoples, Survival International etc.).

Thank you very much.
Sincerely yours,

Ales Simakou,
Byelorussian-American Indian Society
[illegible], Gomel,
246049, BSSR, USSR.

***Letter to International Work Group for Indigenous Affairs (Kopenhagen, Denmark) 1990-12-23***

*практычна ўсіх сфер дзейнасці карэнных народаў, як дома, так і ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, сказаў ён, заклікаючы Пастаянны форум рэкамендаваць Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА), каб яна распрацавала новую платформу па карэнных мовах пры поўным і эфектыўным удзеле карэнных народаў".*

*"УІЛІ ЛІТЛЧАЙЛД, Асамблея першых нацый [WILLIE LITTLECHILD, Assembly of First Nations], сказаў, што мовы карэнных народаў знаходзяцца пад пагрозай знікнення, але пры ўмове падтрымкі яны могуць быць устойлівымі. Важнасць, якую Арганізацыя Аб'яднаных Нацый надае карэнным мовам, будзе мець вырашальнае значэнне для іх выжывання. Канадскае заканадаўства аб карэнных мовах павінна служыць пазітыўным прыкладам таго, як абараняць мовы. "Яны павінны быць жывыя ў нашых цырымоніях і ў нашым штодзённым жыцці", - сказаў ён. Вельмі важна, каб групы карэннага насельніцтва працягвалі супрацоўнічаць з ЮНЕСКА, каб Міжнародны год моў карэннага насельніцтва прынёс істотныя вынікі. "Наша разнастайнасць павялічвае багацце чалавечай сям'і", - дадаў ён".*

*"ДЭВАНІ МАКДЭВІС (Нікарагуа) [DEVONEY MCDAVIS (Nicaragua)] сказала, што, нягледзячы на поспехі, намаганні трэба працягваць. Са свайго боку, Нікарагуа зрабіла шэраг крокаў у галіне адукацыі, юстыцыі і дзяржаўнага кіравання, у дадатак да праектаў лінгвістычнага адраджэння. Больш за тое, Нікарагуа абвясціла некаторыя мовы карэнных народаў часткай сваёй культурнай тканіны [cultural fabric] і гісторыі нацыі".*

*"МЭЦЬЮ НОРЫС, Асацыяцыя гарадской карэннай моладзі [MATTHEW NORRIS, Urban Native Youth Association], зрабіўшы некалькі рэкамендацый, сказаў, што Пастаянны форум павінен заклікаць дзяржавы-члены ўзаемадзейнічаць з карэннымі народамі для распрацоўкі, фінансавання і рэалізацыі нацыянальных планаў дзеянняў па барацьбе з каланіяльнай спадчынай, якая стала прычынай іх перасялення*

World Council of Indigenous Peoples
PO Box 2I3
N-9520
Gouvdageaidnu
Norway

April I3, I996

Dear Friends:

We hesitated to write you at the Canadian address as for I987 taken from an available volume of the Encyclopedia of Associations.
We know about your consultative status with the ECOSOC, but unfortunately this is almost all information on your activities we have.
Our members represent the indigenous peoples of both Belarus and America, all of them are "Native", although we within the Belarusian branch wonder which European nations or ethnic groups could be considered Indigenous to apply for membership in your Council.
In addition to a WCIP "glossary" and the regulations, we need an update on the Universal Declaration "adoption process" which has caused some trouble since the "Black Friday".
We would be happy to receive your reply.
Sincerely yours,

Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to World Council of Indigenous Peoples (Norway) 1996-04-13***

*[displacement], і забяспечыць рэпарацыі і рэсурсы для карэнных народаў, каб прыняць назад перамешчаных людзей [welcome back displaced people]. Пастаянны форум павінен таксама заклікаць дзяржавы прадаставіць рэсурсы для сумеснага перагляду законаў і палітыкі, каб перамешчаныя гарадскія суполкі былі ўлічаныя і ўключаныя".*

*"ЯЛАНДА АТАВАЛА (Эквадор) [YOLANDA OTAVALO (Ecuador)] сказала, што нацыянальныя ініцыятывы накіраваныя на адраджэнне моў карэнных народаў і ўшанаванне культурнай разнастайнасці. Эквадор зрабіў шмат крокаў для гэтага і зараз знаходзіцца ў працэсе стварэння ўніверсітэта карэнных моў. Падкрэсліваючы, што ўсе зацікаўленыя бакі павінны забяспечыць поспех у 2019 г., яна сказала, што вельмі важна, каб спрадвечныя мовы выжылі, і нагадала дэлегатам, што "мы з'яўляемся захавальнікамі [we are the guardians]"".*

*"ІЛІЯ МАЦІЛЬДЭ РЭЕС АЙМАНІ, Міжкультурнае развіццё Чылі [ILIA MATILDE REYES AYMANI, Desarrollo Intercultural Chile], сказаў, што двухмоўная міжкультурная адукацыя павінна быць прадастаўленая ўсім карэнным і некарэнным дзецям ва ўсёй сістэме адукацыі, падкрэсліваючы неабходнасць непасрэдных кантактаў з карэннымі народамі па пытаннях адукацыі. Карэнныя народы павінны мець такі ж статус, як і некарэнныя народы, пры гэтым культурны статус кожнай школы павінен быць адаптаваны да культурнай адчувальнасці карэнных народаў".*

*"ПАСКУАЛЬ СОЛЬ СОЛІС (Гватэмала) [PASCUAL SOL SOLIS (Guatemala)] сказаў, што барацьба за захаванне карэнных моў, такіх як мовы майя, азначае абарону культуры. Гватэмала з 1987 г. працуе над абаронай моў майя, стварыўшы ўстанову для садзейнічання іх распаўсюджванню і выкарыстанню, і прыняла нацыянальны закон, які "афіцыялізаваў"*





The Nordic Sami Institute
Guovdageanidnu
9520 Kautokeino
Norway

July 17, 1996

Dear Colleagues:

We apologize for sending our letter to the World Council of Indigenous Peoples at an incorrect address received from a Spanish Indianist. We had our doubts only as to its completeness. Are there still WCIP representatives in Kautokeino? Is it possible to direct the letter to the addressee?

We would be grateful for information on the current situation of the Sami and your contacts with other aboriginal peoples, especially in the Americas. We are also interested in your "Sami-European" and "Sami-non-European" comparative studies.

Are there Americanists among the Sami?

Your Institute could be one of the "nearest" examples of traditional research structures for us. We would like to learn some of your reports.

Thank you very much.

With best regards.

Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to Nordic Sami Institute (Guovdageanidnu) (Kautokeino, Norway) 1996-07-17***

Norwegian Sami National Association
Norske Samers Riksforbund
P.O. Box 173
9520 Kautokeino
Norway

July 17, 1996

Dear Friends:

We are taking the opportunity to enclose this letter in our mail to the Nordic Sami Institute.

We consider the Sami a perspective partner and the most perspective European one for Belarusian revivers.

There are several concepts of revitalization, including "a return to Europe" and "re-tribalization". Our road is to freedom and an open society, but not "to Europe".

We would be happy to exchange news and views, to know more about your Association and the organizational network of the Sami people.

Sincerely yours,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to Norwegian Sami National Association (Norske Samers Riksforbund) (Kautokeino, Norway) 1996-07-17***

*[officialized] мовы карэнных народаў, паведаміў ён, дадаўшы, што "мова, якая не выкарыстоўваецца, памірае"".*

*"ПЕДРА ВАРЭ (Балівія) [PEDRO VARE (Bolivia)] падкрэсліў нацыянальныя намаганні ў сувязі з Міжнародным годам, адначасова папярэдзіўшы, што поспех Года залежыць ад уключэння карэнных народаў у адпаведныя планы дзеянняў. Выказваючы падтрымку абвяшчэнню міжнароднага дзесяцігоддзя карэнных моў, ён сказаў, што Балівія зрабіла некалькі крокаў, пачынаючы ад стварэння інстытутаў па ўсёй краіне і заканчваючы дадаткам для мабільных тэлефонаў, з удзелам 15 дзяржаўных, акадэмічных і карэнных устаноў".*

*"САЎЛ ВІСЕНТЭ ВАСКЕС (Мексіка) [SAUL VICENTE VAZQUEZ (Mexico)] сказаў, што ўрад акрэсліў меры, якія ўлады могуць прыняць для абароны і садзейнічання выкарыстанню карэнных моў. Сярод іх - намаганні па развіцці дыялогу і ўмацаванні адукацыі карэнных народаў з мэтай забеспячэння падтрымання і захавання моў, сказаў ён, выказаўшы падтрымку міжнароднаму дзесяцігоддзю, каб працягваць ісці тым жа шляхам".*

*"ДЖУДЗІ УІЛСАН, Саюз індзейскіх правадыроў БК [Брытанскай Калумбіі] [JUDY WILSON, Union of BC Indian Chiefs], рэкамендавала Пастаяннаму форуму заклікаць дзяржавы-чальцы ўзаемадзейнічаць з карэннымі народамі праз значны і істотны працэс сумеснай распрацоўкі, поўнага фінансавання і рэалізацыі нацыянальных планаў дзеянняў па адраджэнні і абароне моў карэннага насельніцтва і імкненне да свабоднага валодання мовай. Сярод іншага, яна таксама рэкамендавала дзяржавам, каб яны прадастаўлялі карэнным народам рэсурсы і магчымасці, неабходныя для поўнага ўдзелу ў распрацоўцы планаў дзеянняў у якасці раўнапраўных партнёраў; і каб яны сумесна распрацоўвалі і ўкаранялі незалежныя механізмы маніторынгу і справаздачнасці аб дзейнасці дзяржаў па захаванні і адраджэнні моў карэнных народаў; і каб яны забяспечвалі пастаяннае, працяглае і ўстойлівае фінансаванне [permanent, ongoing and sustainable funding] карэнных народаў для гэтых мэт. "Дзяржавы больш не могуць адхіляць [dismiss] або ігнараваць наш жыццёвы вопыт, а таксама не могуць прымаць патэрналісцкі падыход да прызнання і прыстасавання нашых галасоў і вопыту [recognizing and accommodating our voices and expertise]", - падкрэсліла яна".*

**Літ.:**

*1009 Бузук П. А. Асноўныя пытанні мовазнаўства / пер. П. Жарскага. Мн., 1926*

*1031 В Комитете ООН по ликвидации расовой дискриминации (Нью-Йорк) // Советская Белоруссия. 1981. 6 авг.*

*1061 Вашингтонская администрация резко сократила объем федеральной помощи индейцам и намеревается пойти на еще большие ограничения в 1983 году // Знамя юности. 1981. 30 дек.*

*1066 Вержбовский А. А. Основы всеобщей этимологической грамматики языков Земли. Мн., 1969.*

*310 Вопрос о незаконной конфискации правительством Соединенных Штатов индейских земель заслуживает рассмотрения в ООН, поскольку в данном случае действия американских властей можно сравнить с вооруженным вторжением Ирака в Кувейт // Советская Белоруссия. 1991. 4 апр.*

*1178 Группа индейских вождей и руководителей "самого долгого похода за выживание" - многомесячного марша, организоваанного рядом организаций американских индейцев,- вручила представителям секретариатата ООН документы, свидетельствующие о систематических нарушениях прав населения американского континента // Знамя юности. 1980. 27 нояб.*

*5015 Гусак О. Жив народ - жить языку // Политический собеседник. 1989. № 7. С. 26-28.*

*2410 Джуджаў С. Мовы, як народы: змагаюцца, квітнеюць, паміраюць... // Наша слова. 1993. 16 чэрв.*



*5022 Джуджаў С. Моўныя канфлікты і дыскрымінацыя ў міжнародных дачыненьнях // Спадчына. 1994. № 5. С. 97-101.*

*6241 Дзямешка У. Адкуль пагражае глабалізацыя? // Голас Радзімы. 2001. 7 лістап. С. 6.*

*1266 Журавлев В. Народность, насчитывающая... 615 человек // Знамя юности. 1980. 13 апр.*

*2863 За правы карэннага насельніцтва // Народная газета. 1995. 23 сак.*

*2411 Зюков Б. Равноправие: реальность или фикция? (В Республике Беларусь создается Движение за равноправие, Предлагаем вашему вниманию отрывки из беседы, которую вел член оргкомитета этого движения Борис Зюков с группой слушателей) // Ярмарка (Гомель). 1992. № 1-2. С. 8 (Подп. в печ. 27.02.1992; США, "родной" язык, индейский, английский.)*

*1352 Из 300 миллионов латиноамериканцев 100 миллионов живут в условиях крайней нищеты. - Троим из четырех индейцев - коренному населению Южной Америки - недоступна никакая медицинская помощь // Знамя юности. 1980. 21 янв.*

*1375 К чудовищным последствиям привела политика геноцида, практикуемого американскими властями в отношении коренного населения страны // Знамя юности. 1981. 11 сент.*

*6077 Камінскі П. Калі памірае мова... // Наша свабода. 2001. 15 жн. С. 7.*

*1425 Карэннаму насельніцтву ЗША - амерыканскім індзейцам - пагражае выміранне, іх засталося ўсяго 800 тысяч // Чырвоная змена. 1986. 28 чэрв.*

*1490 Крукоўскі М. Мова, якую спасцігае лёс латыні, альбо Траянскі конь адраджэння // Звязда. 1993. 16 студз.*

*2948 Лукашанец А. А. Нацыянальная мова // Беларуская мова: энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд) і інш. Мн., 1994. С. 383-384.*

*2950 Міхневіч А. Я. Мова жэстаў // Беларуская мова: энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд) і інш. Мн., 1994. С. 354-355.*

*1638 Міхневіч А. Я. Мовы свету, мовы народаў Зямлі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 3. Мн., 1986. С. 662-663.*

*1739 Паводле даных ААН // Звязда. 1987. 27 студз.*

*1771 Петров Г. Тщетные поиски справедливости // Знамя юности. 1977. 2 дек.*

*4533 Порецкий Я. И. Соломон Рысинский: Solomo Pantherus Leucorussus: конец XVI - начало XVII в. Мн., 1983.*

*1920 Самые трудные языки // Сельская газета. 1988. 11 окт.*

*2490 Статыстычнае бюро краіны пацвердзіла, што ў ёй не ўдаецца наблізіць узровень дабрабыту карэнных народаў да агульнанацыянальных стандартаў […] // Чырвоная змена. 1993. 28 верас.*

*2264 Супраць дыскрымінацыі // Чырвоная змена. 1973. 18 студз.*

*2830 Тарасевич М. И. Национально-культурный состав коренного народа Белоруссии; Алейников В. Е. Исторические регионы Руси: новая концепция. Мн., 1994.*

*4886 Хижняк В. (г. Киев). Благовест на помойке: Генеральному секретарю ООН / Главам правительств стран мира / Руководителям экологических общественных организаций // Письма к живым: дайджест газеты "Набат". Мн., 1999. С. 19. ("Набат", 1991, № 30.)*

*6311 Языков становится меньше // Кур'ер. 2001. Верас. № 4-7 (верас.). С. 35.*

*2210 Япония: Дискриминация айну (Токио) // Советская Белоруссия. 1987. 6 авг.*

**САЎЧАНКА Дзям'ян** (2) - працяг тэксту з аўтарскай версіі нашага артыкула 2019 г. для "Славянскога альманаха".

САЎЧАНКА Дзям'ян **[53. У матэрыялах, атрыманых ад Арнт, і ў іншых крыніцах імя Дзям'яна передаецца таксама як Даміян, Дземіян, Дзімеян, Дзіміян і г. д.]** Іосіфавіч - нарадзіўся 1 ліпеня 1845 г., атрымаў імя пры першым хрышчэнні сваім бацькам 5 ліпеня 1845 г. (хросны бацька - алеут Дзмітрый Якутука **[54 ARCA, Vital Statistics, Atka, book for 1845, folio 5, male 6.]**). Быў зноў ахрышчаны 13 кастрычніка 1846 г. у Нова-Архангельску святаром Пятром Літвінцавым (хросныя бацькі - Смолін і пляменніца яго жонкі Ганна, цяпер жонка боцмана 9-га флоцкага экіпажа Аляксандра Іванова) **[55. ARCA, Vital Statistics, Sitka, book for 1846, folio 22, male 3.]**. Відаць, прозвішча святара падказвала некаторую агульнасць паходжання, звязанага з Вялікім Княствам Літоўскім, як старэйшаму Саўчанку, так і шэрагу іншых асоб на Алясцы, уключаючы Ваяводскага **[56. С. В. Ваяводскі быў ураджэнцам Бельскага павета Смаленскай губерні - у зоне беларуска-вялікарускага памежжа. Тут дарэчы пералічыць і іншых асоб - адначасова звязаных з прылеглымі да Смаленскай беларускімі губернямі і адукацыйнымі ўстановамі ў Нова-Архангельску. Напрыклад, у адносінах да 1851 г., нягледзячы на сваё каталіцкае веравызнанне, як "настаўнік Сітхінскай Духоўнай семінарыі" згадваўся Дамінік Ігнацьевіч Транчук (Грынёў А. В. Хто ёсць хто ў гісторыі… С. 535). Ураджэнец Віцебскай губерні Каэтан Ягоравіч Баброўскі пачынаючы з 1 студзеня 1866 г. і да самога продажу Аляскі (1867) быў "наглядчыкам (дырэктарам) і настаўнікам у Новаархангельскім вучылішчы" (Там жа. С. 67-68). Фелікс Аляксандравіч Петрашкевіч, "відавочна, польскага паходжання", - у 1860 г. "выкладаў у новаархангельскай школе матэматыку" (Там жа. С. 417).]**. Муж хроснай Іваноў прыбыў у Нова-Архангельск у 1841 г. на караблі РАК пад камандаваннем Д. Ф. Зарэмбы **[57. Месца паходжання Зарэмбы (інакш Зарэмба [Зарембо]), якое не ўказвалася**



Hope You enjoy reading, the book is really interesting!

IV

INTERCESSOR AND DEFENDER OF THE OPPRESSED

*Editor's Note:* Continuing the ancient tradition of interceding before the wealthy and powerful on behalf of the poor and dispossessed, Hieromonk Makarii and Archimandrite Ioasaph interceded directly not only with Shelikov but with the Holy Synod of the church for redress of wrongs committed against the Kodiak Natives. Their deaths in 1799 delivered supreme power in the colony to Alexander Baranov, whose rule continued until his retirement in 1818.

In 1805, the government sent Cathedral Hieromonk Gideon to Kodiak to assess the real condition of the mission and the native people. Because Father Gideon was the representative of the highest authorities, even Rezanov and Baranov had to defer to him, at least in public. Gideon spent only about two years in the colony, but while he was present, the situation generally improved. His stay in Alaska was so brief, however, that the company regime returned to its earlier exploitation of the Aleuts and harassment of the mission very soon after his departure. Consequently, Father Gideon's contributions have been largely overlooked.

Modern American historians have tended to accept Rezanov, a very low-ranking commoner and no "count" or aristocrat at all, and Baranov rather than the Valaam missionaries without investigating very deeply into the personal characters of these witnesses. Naval Lieutenent Davydov is often cited as another "reliable" source for information on early colonial Alaska. Actually, Davydov was something of an early juvenile delinquent who got himself entangled in some sort of scandal at the academy at Kronstadt and was quickly commissioned and shipped out—at the age of sixteen. Certainly he was an intelligent and perceptive observer of Kodiak life during his brief sojourn there, and his memoirs, published after he fell drunk

285

***Courtesy of Matushka Gladys Askoak, page from Alaskan Missionary Spirituality (1987) by Father Michael Oleksa (p. 285, photocopy, notes)***

**да гэтага нават найбольш аўтарытэтнымі аляска-знаўцамі, два беларускія аўтары лакалізавалі ў Магілёўскай губерні: Чудаў В. Дыянісіеўскі рэдут // Чудаў В. Гонар вышэй за смерць: гістарычныя апавяданні. Мінск, 2012. С. 82; Герой Рускай Амерыкі: Дыянісій Фёдаравіч Зарэмба // Флатаводцы Белай Русі / аўт.-склад. М. М. Маліншэўскі. М., 2017. С. 16.]**. Пазней, у 1850-х гадах, па звестках Грынёва, Іваноў *"з'яўляўся наглядчыкам школы для хлопчыкаў і загінуў падчас нападзення індзейцаў-тлінкітаў на Нова-Архангельск 11 сакавіка 1855"* **[58. Грынёў А. В. Хто ёсць хто ў гісторыі… С. 190.]** г. Гэтыя факты важныя для ўзнаўлення фону - абстаноўкі ў калоніях, якая ўплывала на фарміраванне асобы Д. Саўчанкі. Як і ў выпадку з Паўлам, нашы дадзеныя па храналогіі ўказанні ў дакументах крэольскай ідэнтычнасці Дзям'яна толькі выбарачныя. Аднак відавочна, што ён, як і брат, набыў гэты статус пасля таго, як завяршылася яго навучанне ў школе, якая рыхтавала кадры для РАК; Дзям'ян пэўна называецца крэолам у 1873 г. Яго прафесія, заняткі, дасягнуты ўзровень пісьменнасці і характар застаюцца для нас няяснымі.

САЎЧАНКА Марыя - тлінкітка (дзявочае прозвішча ў запісе аб шлюбе - Ктаў (Ktau), у спавядальным роспісе за 1868 г. - Мусцін (Mustin), далей праходзіць у дакументах проста як Марыя). Упершыню выйшла замуж у 1868 г. за Філіпа Васільевіча Міхайлава **[59. Гэты "ўраджэнец сял. Уксалапяя прыхода Сальмус" Выбаргскай губерні, наняты РАК, адправіўся ў Рускую Амерыку ў 1861 г. (Там жа. С. 350)]**. Заўдавеўшы ў 1871 г., у 1873 г. у саракагадовым узросце ўзяла шлюб з 29-гадовым Дзям'янам. Тлінкіцкія жанчыны пакідалі сваю этнічную тэрыторыю, якая ўключае і Нова-Архангельск (Сітку), і ў сувязі з неабходнасцю па працы іх мужоў або жонак - "служыцеляў" РАК. Ёсць статыстыка колькасці тлінкітаў у раёне рассялення алуціік, выведзеная з царкоўнага ўліку па Кадзьякскім прыходзе. Яна сведчыць, што тлінкіты ў цікавы для нас перыяд жылі выключна ў Паўлаўскай гавані / Кадзьяку **[60. Luehrmann S. Alutiiq villages under Russian and U.S. rule. Fairbanks, AK, 2008. P. 165-171. Тлінкітаў у Кадзьяку налічвалася ад 7 да 19 чалавек: адпаведна, 3 мужчыны і 4 жанчыны ў 1849 г.; 3 і 5 у 1860; 8 і 11 у 1867; 9 і 10 у 1870; 7 і 5 у 1877; 6 і 7 у 1885; 5 і 2 у 1895 (звесткі з табліц, пада-дзеных запар за названыя гады). С. Люрман пры гэтым адзначае тую асаблівасць уліку ў царкоўнай статыстыцы этнічнай прыналежнасці, што жанчын адносілі да тых жа катэгорый, да якіх адносіліся іх мужы і бацькі (Ibid. P. 163).]**.

**Літ.:**

*11784 Сімакоў А. В. Лісты Дзям'яна Саўчанкі як крыніца па гісторыі царкоўнай школы ў Сан-Францыска // II Чтения памяти протоиерея*




***Envelope from the magazine Russkaia Amerika (журнал "Русская Америка", Вологда) 1992-03-17 pm***








***Envelope from Center for the Study of Russian America and Russian-American Relations of the Institute of General History of the Russian Academy of Sciences (Центр по изучению Русской Америки и русско-американских отношений Института всеобщей истории РАН), получ. 1993-11-09***




***Envelope from Voeikov Main Geophysical Observatory (Главная геофизическая обсерватория, письмо от Ю. А. Лебского, зав. ОК, д. 1992-12-14)***

*Иоанна Григоровича (1792-1852): историка, археографа, археолога: материалы научно-практической конференции, Минск, Минская духовная академия 10 мая 2018 года. Мн., 2019. С. 154-163.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by), researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 92].***

# Памёр Мікола Маляўка

4.04.24 года ў 13 30 не стала Маляўкі Мікалая Аляксандравіча (Міколы Маляўкі).



Мікола Маляўка нарадзіўся 13 снежня 1941 г. у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля школы-дзесяцігодкі працаваў у калгасе, на лесанарыхтоўках ў Карэліі.

Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў у нясвіжскай раённай газеце, на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе "Вясёлка" (30 гадоў).

Пісаў для дарослых і дзяцей. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы.

Родная зямля над Нёманам - крыніца творчых задум пісьменніка. У сваіх кнігах ён апявае дар жыцця, дар міру, дар працы, дар сяброўства і кахання.

Аўтар паэтычных зборнікаў "Едуць маразы" (1966), "Лотаць" (1973), "Эстакада" (1982), "Аднавяскоўцы" (1988), "Зімні дождж" (1991), "Ручнічок на крыжы" (1995), "Покуць" (2001), "Сядзіба, або Хата з матчынай душой" (2002), "Старая зямля" (2005), "Ой, бярозы і сосны…" (2006), "Дзічка ў полі" (2007), "Крыштальная галінка снегападу" (2011), "Беражыце шыпшыну" (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей "Дзед і ўнучка" (1983), "Салодкі лядзяш" (1986), "Як дом будавалі" (1987), "Дзе жывуць казкі" (1994), "Запрашаем на калядкі" (1998), "Папялушка" (2000), "Пачынайце дзень з усмешкі" (2013) і інш.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992г.), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997г.), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Мастацкая літаратура" (2002 г.), Літаратурнай прэміі "Залаты Купідон" (2012 г.). Нацыянальная літаратурная прэмія (2021г.)

Узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992г.), медалём Францыска Скарыны (2007г.), медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі - за плённы ўнёсак у літаратуру.

Выдатнік народнай асветы. Выдатнік друку Беларусі.

Пахавалі Міколу Маляўку на малой радзіме ў Мікалаеўшчыне.

***Паводле СМІ.***





# "Мы з 90-х!"

У Першамайскім Доме культуры прайшоў канцэрт "Мы з 90-х!" у рамках раённага агляду канцэртных праграм "Лідскі падворак".












Стылістыка таго часу праглядалася ў кожнай дробязі: гасцей сустрэла фотазона эпохі тых гадоў, афармленне залы, касцюмы, падбор канцэртных нумароў - усё спрацавала ў тандэме і стварыла ў гледачоў выдатны настрой.

*ТК "Культура Лідчыны".*

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 8.04.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2,75 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*